ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛОК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## КАЛЯДЫ — СВЯТА РАБСТВА

СНЕЖАНЬ

МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДАКЛАДЧЫКАЎ І ГРУПАГІТАТАРАЎ

№ 24 (39)

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК — 1933

Рэдактар *Г. Стырнэ*
Карэктар *Яноўская*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў набор 19/XII—33 г.
Надпісана да друку 24/XII—33 г.
Набрана брыгадай *ФЗВ*
Адк. кар. друк. *Варатынская*

Заказ № 2623. 10.000 экз. ($^3/_8$ арк.) Уп. Галоўлітбела №а 1966

Друкарня імя Сталіна.

## ПРАДМОВА ДА ТЭЗІСАЎ ЦС СВБ СССР

Друкуючы тэзісы ЦС СВБ СССР да антыкаляднай кампаніі, Агітмасаддзел ЦК КП(б)Б зварачае ўвагу дакладчыкаў на патрэбнасць увязкі рэкамендуемых тэзісаў з бягучымі важнейшымі гаспадарча-палітычнымі работамі па БССР і з рашэннямі снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б.

I

Ільназагатоўкі, надзяленне кожнага бескароўнага калгасніка цёлкай, захаванне і развіццё конскага пагалоўя, своечасовы рамонт і ахова сельскагаспадарчага інвентара (асабліва трактарнага парка), засыпка насенных і страхавых фондаў, далейшы ўздым якасці прадукцыі і палепшанне добрабыта працоўных— важнейшыя гаспадарча-палітычныя работы, выконваемыя зараз па БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б. З самай упорнай і настойлівай барацьбой за паспяховае вырашэнне гэтых бягучых важнейшых работ павінна быць увязана антырэлігійная, антыкалядная кампанія гэтага года.

У той час, калі Маскоўская вобласць поўнасцю выканала план ільназагатовак, на 20/XII-33 г. па БССР загатоўлена ўсяго 52,6 проц. гадавога плана па ільнавалакну і 87,9 проц. па ільнанасенню. Па ільназагатоўках БССР адстала і ад Заходняй вобласці. Зацягваецца па рэспубліцы і засыпка насенных фондаў. Зацяжка забяспечання сябе насеннем для яравой сяўбы затрымлівае зараз і разгортванне гандля хлебам калгасамі, калгаснікамі і працоўнымі аднаасобнікамі БССР. Дрэнны ход надзялення бескароўных калгаснікаў цёлкамі па раёнах БССР затрымлівае вырашэнне баявой задачы ліквідацыі бескароўнасці.

Вось чаму агітацыйна-масавую антырэлігійную прапаганду супроць кулацкіх каляд— гэтага свята рабства — агітатары павінны ўвязаць з практычнымі задачамі і мерапрыемствамі на мясцах па ўсямернаму ўзмацненню барацьбы за лён, за засыпку насення, за падрыхтоўку на ўсіх участках да сяўбы, за ліквідацыю бескароўнасці, за аўладанне тэхнікай вытворчасці, за безумоўнае выкананне ўсёй прамысловасцю БССР (асабліва лёгкай) гадавых заданняў і планаў.

## II

Снежаньскі пленум ЦК КП(б)Б цалкам далучыўся да рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК КП(б)У па нацыянальнаму пытанню. Тав. Гікало ў артыкуле да 15-годдзя ЛКСМБ

піша: „У БССР, як і на Украіне, на сёнешнім этапе галоўнай небяспекай у нацыянальным пытанні з'яўляецца мясцовы нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі". У свзёй антырэлігійнай прапагандзе да антыкаляднай кампаніі агітатар павінен раз'ясніць, што „велікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага саюза і ўсей ВКП(б), але што гэта ні ў якой ступені не супярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі. Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх велікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэвалюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакіруюцца паміж сабой на агульнай платформе адрыва БССР ад СССР для аслаблення пазіцый СССР і ўзмацнення пазіцый капіталізма" (з рэзалюцыі снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б). Супроць контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызма патрэбна з усёй сілай завастрыць лозунг барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм. Непрымірымая барацьба за пролетарскі інтэрнацыяналізм— важнейшая задача. Агітатар павінен шырока раз'ясніць гэта масам, бо зараз гэта ёсць асноўнае і галоўнае ў барацьбе за правільнае правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

---

# КАЛЯДЫ—СВЯТА РАБСТВА

## Тэзісы антыкаляднага даклада

### 1

Капіталістычны свет сустракае пятую зіму крызіса, голада і ўбоства мільёнаў працоўных, асуджаных на беспрацоўе, задаўленых ботам фашысцкай дыктатуры. Ілюзіі аб выратавальным дзеянні мер, прапануемых многалікімі знахарамі капіталізма, і надзеі на ўздым неперарыўна падаючай крывой капіталістычнай гаспадаркі развеяны ў прах. Суровая сапраўднасць паўстае ў непрыкрытым выглядзе: далейшы заняпад вытворчасці, паглыбленне разрыва між прадукцыяй і спажываннем, новае падзенне цэн, закрыццё фабрык і заводаў, рост і без таго ўжо страшэннай цыфры беспрацоўных. „Мы ідзем насустрач зіме, якая будзе самай цяжкай за апошнія 100 год“,—сказаў фашысцкі міністр прапаганды Гебельс (Германія).

К пачатку 1930 г. у капіталістычных краінах было 19 млн. беспрацоўных, а цяпер іх звыш 45 млн. Разам з сем'ямі лік галадаючых людзей, якія знаходзяцца на апошняй мяжы

жабрацтва і нужды, перавышае 180 млн. Але сюды яшчэ не ўваходзяць беспрацоўныя каланіяльных і паўкаланіяльных краін. У адной толькі Індыі 40 млн. беспрацоўных, 100 млн. галадаючых, 100 тыс. берлінскіх пролетарыяў галадаюць. Затое буржуазія і мяшчанства за іх кошт абжыраюцца і будуць асабліва падкрэсліваць сваю сытасць у дні папоўскага свята каляд.

## 2

Каляды—старанна распрацаваная, вякамі склаўшаяся ў эксплаататарскім грамадстве, сістэма папоўскіх абрадаў і бытавых традыцый (звычаяў). Яе назначэнне затушаваць класавыя супярэчнасці, растварыць рэволюцыйныя настроі мас у гнілых ілюзіях папоўшчыны. Калядная казка аб богу-збаўцу, прышоўшым у свет, з'яўляецца (побач з соцыял-фашысцкай тэорыяй аб мірным перарастанні капіталізма ў соцыялізм і побач з хвастлівымі абяцаннямі збавіць капіталістычную сістэму ад крызіса) часткай абмана мас буржуазіяй. У гады адноснай капіталістычнай стабілізацыі (умацавання) буржуазія падмацоўвала папоўскую прапаганду аб міры і добрабыце на зямлі дробнымі падачкамі працоўным, каб стварыць сярод іх хоць-бы часовае ўяўленне аб святочным даволстве. У гады крызіса адпадае і гэтая жалкая калядная костка, якую эксплаататары швыралі са свайго стала беднаце. Буржуазія—банкрут, не здольна больш аплач-

ваць сваіх абавязацельстваў. Яна робіць стаўку на фашысцкі бізун і адначасова на ўгаворы працоўных з боку яе верных служак: соцыял-фашыстаў і папоў. Каляды павінны падняць падаючую веру ў непарушнасць і богаўстаноўленасць капіталізма, веру ў здольнасць капіталізма выйсці з крызіса.

## 3

Класавую прыроду каляд наглядна паказала працоўным германская буржуазія. Рукамі стаўленіка каталічных папоў Брунінга яна абвяшчала ў спецыяльных дэкрэтах урада так званае „калядиае класавае перамір'е", якое на справе памагала фашызму ў мабілізацыі сіл і рыхтавала забарону легальнай дзейнасці компартыі. Гэтым буржуазія імкнулася ўсыпіць рэволюцыйную пільнасць адсталых мас і падрыхтаваць прыход фашызма да ўлады. Фашысцкая дыктатура ўсё больш адкрыта раскрывае свой твар—твар ката (палача) рэволюцыйных рабочых, вернай прыслужніцы банкіраў і фабрыкантаў. Але фашызм мае патрэбу ў маскіроўцы, у абмане мас,—і карыстаецца з гэтай мэтай паслугамі папоўшчыны. Імення таму заключыў Гітлер канкардат (дагавор) з каталіцкай царквой. Фашызм выкарыстоўвае каляды для ўміратварэння мас, якія рэволюцыянізуюцца, падаграючы падаючыя ілюзіі (абманчыя надзеі) аб шчаслівым жыцці ў фашысцкай „трэцяй імперыі". Вось словы аднаго

з відных фашыстаў: „Пад сцягам нацыянал-соцыялізма аб'яднаемся вакол каляднай ёлкі, бо, пакуль яна гарыць, жывуць германскі дух і хрысціянства“.

Калядная легенда аб „класавым міры ва хрысце“, перад якім усе роўныя, з'яўляецца прыладай мабілізацыі сіл фашызма, спробай затрымаць класавую дыферэнцыяцыю (размяжоўку), якая намецілася ў яго радах.

## 4

Крызіс выклікаў гіганцкае абвастрэнне супярэчнасцяй імперыялістычных клік. Грашовая і гандлёвая вайна чрэвата адкрытай вайной—пры помачы артылерыі, танкаў і авіяцыі. Японскі імперыялізм прадаўжае сваё наглае ўтаржэнне ў Кітай. Капіталістычны свет жыве ў такой абстаноўцы, калі адна іскра можа нарадзіць гіганцкі ўзрыў. Тварэнне Версаля—Ліга нацый, якая павінна служыць шырмай для прыкрыцця супярэчнасцяй паміж драпежнікамі імперыялізма, распадаецца. Буржуазія прагне новага крывавага пабоішча, спадзяючыся пусціць такім чынам у ход спыняючуюся машыну капіталістычнай вытворчасці. Але яна мае патрэбу ў ахове сваіх тайных падрыхтаванняў да вайны. Яна падносіць працоўным славаслоўе аб міры, калі на ваенных заводах кіпіць работа, калі вырабляюцца навейшыя сродкі разбурэння. Каляды—гэта адно з папоўскіх сродкаў адцягнуць

працоўных ад рэвалюцыйнай барацьбы,якую масы вядуць супроць нараджаючайся новай імперыялістычнай бойні. Але ніякім кадзільным дымам не ўдасца прыкрыць вайну, ужо пачатую японскім імперыялізмам супроць Кітая.

5

Папоўшчына з'яўляецца аплотам сусветнай фашысцкай рэакцыі, непрымірымым ворагам соцыялізма. На каляды 1930 г. быў пачаты „крыжавы паход“ супроць СССР. У калядных пропаведзях папы ўзмоцнена выкарыстоўваюць рэлігійныя настроі адсталых мас для злобнага цкавання СССР. Сулячы працоўным усякія благі ў „капіталістычным раю“, папы выдумляюць жахі, якія быццам-бы творацца ў СССР. У гэтым годзе фашысцка-папоўская зграя з асобай сілай разгорне антысовецкую прапаганду ў дні каляд. Яе прыводзяць у шаленства буйнейшыя поспехі, дасягнутыя СССР, які непарарыўным ростам сваёй эканамічнай магутнасці, сваёй палітычнай вагі, на сусветнай арэне дабіўся прызнання ад буйнейшай капіталістычнай дзяржавы—ПАЗШ. Планам інтэрвентаў, арганізатарам „крыжавога пахода“ нанесен сакрушальны ўдар.

6

Два светы—два карэнным чынам процілеглых вынікі эканамічнага развіцця. Да нэвага, 1934 г. капіталізм падыходзіць з вы-

творчай базай, якая ўсё больш і больш глыбока расхістваецца крызісам у асноўных сваіх устоях. У пяці краінах—ПАЗШ, Англіі, Германіі, Францыі і Бельгіі—патушана палавіна доменных печаў, якія дзейнічалі яшчэ ў 1928 г. Разбурана і зніштожана ў ПАЗШ 60 доменных печаў, у Англіі—59, у Германіі—28. За тыя-ж гады ў СССР уведзена ў эксплаатацыю 40 новых домен (усяго ў нас дзейнічае 108 доменных печаў, і ў гэтым СССР ужо пераўзыходзіць кожную з указаных краін). Соцыялізм даказаў сваю пераважнасць над капіталістычнай сістэмай. У 1933 г. у строй увайшлі такія гіганты, як Чэлябінскі завод гусенічных трактараў, Уральскі завод буйнага машынабудаўніцтва, Луганскі завод магутных паравозаў і інш. Буйны зрух дасягнут у ажыццяўленні лозунга тав. Сталіна аб асваенні новых заводаў і новай тэхнікі. Аўтамабільны завод імя Сталіна, СТЗ, ХТЗ і цэлы рад іншых не толькі аўладалі ўсёй праектнай магутнасцю, але і значна знізілі сабекошт прадукцыі, павысіўшы прадукцыйнасць працы. Буйнейшыя поспехі дасягнуты ў нафтавай прамысловасці.

Калгасны лад, які атрымаў перамогу ў с.-г., умацаваўся яшчэ больш трывала. Звыш $^4/_5$ усіх пасеваў належалі ў гэтым гаду калгасам і совгасам. Пасеўная і ўборачная кампаніі закончаны значна раней, чым у мінулым гаду. Усе рэспублікі, краі і вобласці Совецкага саюза выканалі гадавы план хлебапаставак

на 2—3 месяцы раней, чым у мінулыя гады. Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў і ператварэнне іх у бальшэвіцкія ў моцнай ступені пасунулася ўперад. Пасяхова ажыццяўляецца лозунг тав. Сталіна аб тым, каб зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі. У гэтым гаду ўжо нярэдкія выпадкі, калі на адзін працадзень выдавалася калгаснікам 14—16 *кг* хлеба і нават больш. Украіна і Паўночны Каўказ на аснове ўпорнай барацьбы за выкананне дырэктыў, якія даў ЦК нашай партыі на чале з тав. Сталіным, пасяхова вышлі з прарыва і ўпэўнена ідуць па шляху агульнага ўздыма і ўмацавання сельскай гаспадаркі.

## 7

Соцыялізм, пабудова бяскласавага соцыялістычнага грамадства, азначае зніштажэнне прычын, параждаўшых нужду, класавую няроўнасць, эксплатацыю; падсякаюцца асноўныя карэнні рэлігіі.

Не павінна быць месца рэлігіі там, дзе героі соцыялістычнай працы будуюць з нябачаным энтузіязмам, планамерна, арганізавана і свядома новы, соцыялістычны свет.

На аснове перамогі калгаснага ладу вёска паднялася да новага, соцыялістычнага жыцця, дзе знікаюць астаткі эксплаатацыі, тэхнічнай адсталасці, некультурнасці, векавога варварства, у якім памешчыкі і капіталісты трымалі вёску. Адыходзяць у мінулае (побач з усімі іншымі перажыткамі рабскага ладу) таксама

калядн з іх абдурваннем працоўных папоўскімі казкамі, з іх беспрабуднай п'янкай і з мяшчанскай гніллю.

8

Новыя перамогі дасягнуты ў 1933 г. на аснове сапраўднай барацьбы за ўстаноўкі, выстаўленыя партыяй і правадыром яе, тав. Сталіным, для ўздыма будаўніцтва соцыялізма на вышэйшую ступень, для перамагання труднасцяй і перашкод на нашым шляху. На паасобных участках ёсць адставанні. У асаблівасці востра сказваецца адставанне чыгуначнага транспарта, недавыконваюцца планы па металу. У барацьбе за ўздым прадукцыйнасці працы, зніжэнне сабекошта, за якасныя паказальнікі атрыманы буйныя, але яшчэ няпоўныя, недастатковыя перамогі.

Задачы далейшага ўздыма ўказаны ў пастановах СНК і ЦК ВКП(б) аб Данбасе і аб чыгуначным транспарце. Гэтыя задачы патрабуюць актыўнай перабудовы работы, адмаўлення ад бюракратычных, папяровых метадаў кіраўніцтва, канчатковай ліквідацыі абязлічкі і нарэшце грамаднага павышэння свядомасці працоўных у іх адносінах да вытворчасці, да грамадскай уласнасці. Перад соцыялістычным Данбасам ЦК ВКП(б) сваім апошнім рашэннем паставіў як баявую задачу— даць 60 *мільёнаў тон* вугаля ў 1934 гаду замест 50 *мільёнаў тон* у гэтым гаду.

Уступаючы ў другі год другой пяцігодкі,

трэба ў асаблівасці падкрэсліць рашаючае значэнне гэтых момантаў для нашых далейшых поспехаў. Пабудаваць бяскласавае соцыялістычнае грамадства можна толькі на аснове ўпорнай барацьбы за соцыялістычнае перавыхаванне ўсіх працоўных, у асаблівасці-ж многамільёнанных калгасных мас. Рэлігія перашкаджае гэтай барацьбе. Папоўская калядная кампанія накіравана да падрыва свядомага ажыццяўлення працоўнымі гэтых задач. Каляды цягнуць працоўнага назад, дэмабілізуюць адсталыя слаі, процідзейнічаюць іх баявому згуртаванню вакол задач другога года. Гэты разлагаючы ўплыў папоўскага свята, ніці якога з бытавой абстаноўкі цягнуцца на вытворчасць, у калгас, знаходзіць яшчэ даволі часта адкрытае выражэнне ў злачынным дэзертырстве з фронта працы— у святочных прагулах. Барацьба з папоўскімі каляднымі настроямі і звычаямі—гэта барацьба за ўздым ударніцтва і соцыялістычнага спаборніцтва, барацьба за свядомага, актыўнага будаўніка бяскласавага соцыялістычнага грамадства. У асаблівасці важнае значэнне мае яна ў вёсцы, дзе папоўшчына яшчэ захоўвае ў даволі моцнай ступені свае пазіцыі, дзе яшчэ значна сказваюцца перажыткі каляднага папоўскага свята.

9

Класавая барацьба не знікае яшчэ пры наяўнасці вялікіх перамог соцыялізма, якія

шчыльна падводзяць нас да ажыццяўлення істарычнай задачы—да пабудовы бяскласавага социялістычнага грамадства. Наадварот, яна нават абвастраецца на паасобных участках, бо вялікія перамогі соцыялізма нясуць канчатковую смерць астаткам капіталістычных класаў. У новай абстаноўцы класавы вораг прымяняе новыя прыёмы барацьбы супроць соцыялізма, дзейнічаючы „ціхай сапай". Ён пранікае на нашы соцыялістычныя прадпрыемствы і ўсяляк шкодзіць. Рэлігія з'яўляецца сродкам маскіроўкі гэтых манеўраў класавага ворага, кулацкай прапаганды, у асаблівасці ў вёсцы. Папы і сектанты, яшчэ нядаўна адкрыта выступаўшыя ў абарону кулака, цяпер маскіруюцца, прыкідваюцца прыяцелямі калгаса, прыстасоўваюцца да новай абстаноўкі. Калядьі—буржуазна-кулацкае свята. Самая сутнасць яго заключаецца ў прапагандзе класавага міра. Калі следаваць каляднай пропаведзі міра і любві, то працоўны павінен дараваць кулацтву яго праграшэнні і прыняць яго ў працоўную сям'ю. Каляды ўзбуджаюць надзеі злейшых ворагаў рабочага класа і калгаснага сялянства—праз рэлігію яны імкнуцца падарваць вялікі фронт усіх працоўных СССР, павярнуць сялянскія масы назад, да капіталістычнага рабства. Выкрыццё каляд—важнейшая палітычная задача СВБ, накіраваная да падрыва апошніх астаткаў уплыва кулацтва на адсталыя масы, да ўмацавання адзінага фронта працоўных горада і вёскі

ў пабудове бясkласавага соцыялістычнага грамадства.

10

У гэтым гаду з больш магутным напорам павінны мы разгарнуць моцна, па-большэвіцку антыкалядную кампанію. Перажыткі рабства сказваюцца ў новай абстаноўцы тым вастрэй, чым відавочней неабходнасць магчыма хутчэй поўнасцю выключыць іх з быта працоўных мас. Неабходна ўлічваць асаблівасці такой формы буржуазнага абмана працоўных, як каляды, эксплаататарская сутнасць якіх па-майстэрску прыкрыта знадворна нейтральнай, бяскрыўднай абалонкай, асвяшчонай звычаем. Калядную „ёлачку" да гэтых пор сёй-той лічыць невіннай забавай. Па бытавых і іншых відах прымірэнцтва да папоўшчыны трэба моцна ўдарыць. Папоўская абраднасць глыбока варожа соцыялізму. Яна накіравана да размагнічвання баявога ўдарніцтва будаўнікоў новага, соцыялістычнага света. Іменна пад флагам знадворна нявінных звычаяў папоўшчына прабуе ў нашай краіне адваяваць сякія-такія слаі, затрымаць іх уключэнне ў рады свядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

11

Антырэлігійная прапаганда—важнае звяно соцыялістычнага перавыхавання працоўных. Разгорнута яна ўсё яшчэ недастаткова. Анты-

каляднaя кампанія павінна ў працэсе выканання асноўнай задачы—выкрыцця каляд—умацаваць бязбожжа, падняць яго на новую, вышэйшую ступень. Рост ячэек СВБ, масавы ахоп працоўных бязбожнай работай павінен суправаджацца ўздымам якасці, паглыбленнем бязбожнай прапаганды. Яе трэба спалучыць з барацьбой за высокія вытворчыя паказальнікі.

## 12

Асоба важнае значэнне мае антыкалядная кампанія гэтага года ў вёсцы. На аснове вялікіх поспехаў, дасягнутых у 1933 г., калгасная вёска падымаецца на новую, вышэйшую ступень. Задачы гэтага ўздыма ўказаны тав. Сталіным у гутарцы з дэлегацыяй калгаснікаў Одэскай вобласці: „Працаваць у калгасе чэсна і берагчы калгаснае дабро“. Выконваўшы гэтыя ўказанні правадара нашай партыі, правадыра сусветнага пролетарыята, калгаснікі ў самы кароткі тэрмін стануць заможнымі працаўнікамі. У перадавых калгасах ужо ідзе напружаная падрыхтоўка да звышранняй сяўбы. Зіму трэба скарыстаць для ўздыма палітычнай, выхаваўчай і культурнай работы. У калгаснай вёсцы праводзіцца масавы культпаход. У гэтай абстаноўцы асабліва шкодны каляды. Папоўскія святы на-руку астаткам кулацтва, яны перашкаджаюць ударнай вытворчай рабоце калгасаў. Каляды — адзін з астаткаў таго духоўнага рабства, цемры,

невуцтва і культурнай адсталасці, у якіх трымалі працоўных эксплаататары; яны процідзейнічаюць росту палітычнай свядомасці, культурнаму росту новай, калгаснай вёскі. Антыкалядная кампанія ў вёсцы павінна быць пранізана барацьбой за лозунгі, выстаўленыя тав. Сталіным, за гаспадарчы ўздым калгасаў, за палітычны і культурны рост калгасных мас.

## 13

Антыкалядная кампанія будзе адбывацца ў часе падрыхтоўкі працоўных нашай краіны да XVII з'езда ВКП (б) і XV з'езда КП(б)Б. Па СССР ужо разгортваецца ўсё шырэй і шырэй масавы вытворчы паход імя XVII партз'езда. Заводы, фабрыкі, МТС, совгасы і калгасы прымаюць абавязацельствы, выкананне якіх будзе азначаць новы вялікі крок у соцыялістычнай перабудове нашай краіны. Гэты вытворчы паход умацоўвае базу для далейшага роста бязбожжа ў СССР.

Задача СВБ—звязваць антырэлігійную прапаганду з усёй практыкай соцбудаўніцтва, і таму актыўны ўдзел у вытворчым паходзе імя XVII партз'езда—абавязак кожнага бязбожніка і кожнай арганізацыі СВБ.

Не павінна быць ні адной такой ячэйкі СВБ, якая не прыняла-б канкрэтных абавязацельстваў у сувязі з гэтым паходам. У рэзультаце павінен узнікнуць новы ўздым бязбож-

нага ўдарніцтва і соцспаборніцтва за павышэнне прадукцыйнасці працы, за аўладанне тэхнікай, за выкананне прамфінпланаў. Усю гэтую работу неабходна звязаць з антырэлігійнай прапагандай.

У вёсцы гэта асабліва важна, тым больш, што паход імя XVII партз'езда ў калгасах праводзіцца пад лозунгамі барацьбы за культуру, за вучобу, за чыстату. Важнейшым абавязкам вясковых бязбожнікаў (як і бязбожнікаў гарадскіх прадпрыемстваў, абслугоўваючых сельскагаспадарчую вытворчасць) павінна быць большэвіцкая, своечасовая падрыхтоўка да веснавой сяўбы.

## 14

Пад маскай каляд капіталістычны свет прабуе атакаваць з тыла магутныя ўстоі соцыялізма ў нашай краіне, дзе зніштажаюцца з карэннем апошнія астаткі эксплаатацыі. Пераможнаму росту новай, соцыялістычнай эканомікі, быта і культуры, нябачанаму ў гісторыі ўздыму творчых сіл мас гніючы разлагаючыйся капіталізм у гэтыя дні процістаўляе каляды, якія служаць вобразам і падобіем капіталістычнага света, прасякнутага папоўскім ліцамер'ем, ілжывасцю і гніллю.

Выкрываючы сусветную папоўска-буржуазную калядную кампанію, працоўныя нашай краіны ўспомняць у гэтыя дні аб мільёнах працоўных, якія яшчэ томяцца ў турмах

капіталізма, у духоўнай турме папоўшчыны, замярзаюць на вуліцах капіталістычных гарадоў перад вокнамі, за якімі спраўляе сваё каляднае свята буржуазія. Наша антыкалядная кампанія—сусветная кампанія пролетарскага бязбожжа супроць капіталізма, крыніцы эканамічнага і духоўнага рабства, супроць сусветнай папоўска-фашысцкай рэакцыі, барацьба за перамогу соцыялізма ва ўсім свеце.

ЦС СВБ СССР.

